цэлі ў Расеі. Кс. мітрапаліта ў Рыме ждуць у першых днях студня.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

**Нямецкіе апавешчэньня:**

**28. XII. Заходні театр:**

На паадзінокіх пунктах фронту —жывейшы агонь артылеры. На ўсходзі ад Люнэвіль узяты палонные.

**Італьянскі тэатр.**

У дзень быў агонь на плоскагорыі Ас'яго і хрыбце Томба.

**29.XII. Заходні театр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На паадзінокіх адрэзках фронту у Фляндрыі, на поўдні ад Скарп, пры Грэнкур і Гонль'е агонь у вечары крапчэў.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На поўначы ад Кроткон нашы разведчыкі ўзялі францускіх палонных.

**Італьянскі театр:**

Атака італьянцаў на вяршыны на ўсходзі ад Монтэ Томба адкінута агнём.

**30.XII. Заходні тэатр:**

У завароці Іпра, на поўдні ад Скарп, на усходным берэзі Мааса—жывейшая чыннасць артылеры. Разведкі на англіцкім фронці і ў Аргонах.

**Італьянскі тэатр.**

На хрыбце Томба і на адрэзку П'явэ, наабапал Фэдэробба, паабедзі ішлі вострые артылерыйскіе і мінамётные бітвы.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

ЛОНДОН (Рэўтэр). Адміралцейство апавешчае:

У начы з 22 на 23 сьнежня ля Голандзкаго узбярэжжа пры туманнай пагодзі затанулі ад мін ці торпэд 3 англіцкіе мінаносцы. Пры гэтым пагіблі 13 афіцэраў і 100 матросаў.

БЭРЛІН. Паводлуг ведамасьці агенцтва «Гавас'а», нямецкая падводная лодка, якая затапіла францускі крайсэр „Sato Reno", сама пры гэтым пагібла. Людзі блізка ўсе выратаваны.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У паўночных водах нямецкіе падводные лодкі ізноў затапілі 18.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Ірляндзкім моры за апошніе 5 дзён затоплено 18,000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Нямецкіе падводные лодкі затапілі ізноў у Сяродземным моры 9 аружных параходаў ёмкасьцю разам больш за 30.000 тонн.

## АБВЕСТКІ.



Друкавана у друкарні И. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Редактар Язэп Салавей.